Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, Inc., U. S. A.

# Беларус

ЦАНА — PRICE 50 ¢

Address:
BIELARUS
166-34 Gothic Drive
Jamaica, N. Y. 11432

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ — BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVI. № 101-102. Жнівень-Верасень 1965. NEW YORK August-September 1965. Vol. XVI. № 101-102.

## ПАМЯЦІ АЙЦА ХВЕДАРА ДАНІЛЮКА



29 ліпеня сёлета споўнілася пяць год ад дня сьмерці Мітрафорнага Пратаярэя Хведара Данілюка. З гэтае сумнае нагоды неабходна прыпомніць хоць галоўныя мамэнты з жыцьця й дзейнасьці Айца Хведара Данілюка.

Айцец Хведар ведамы беларускаму грамадзтву, як жаўнер, гарачы патрыёта, сьвятар і адзін з найбольш актыўных суудзельнікаў адбудовы Незалежнай (Аўтакефальнай) Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Жыцьцёвы шлях Айца Хведара — гэта бязупыннае змаганьне за Беларускі Народ, за ягоную свабоду й за Беларускую Незалежную Праваслаўную Царкву.

Як жаўнер, адразу пасьля Рэвалюцыі 1917 году, Хведар Данілюк, у той час як малады ахвіцэр расейскае арміі, прыступае да арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак на Румынскім фроньце. Пазьней бачым паручніка Хведара Данілюка ў радох беларускае арміі, як Слуцкага паўстанца. Наапошку, у Заходняй Беларусі Хведар Данілюк удзельнічае пры вэрбаваньні ахвотнікаў, у Першы Беларускі Полк у Гарадні. Вайсковая акцыя, як ведама, ня мела поўнага посьпеху. Хведар Данілюк ня раз цьвердзіў: „Нас было замала".

На рэлігійнай ніве Айцец Хведар працуе ад 1921 году аж да самае сьмерці. Спачатку працуе ў Гарадзеншчыне й Наваградчыне, пасьлей ад 1944 году — на эміграцыі.

Праваслаўная Царква пад польскай акупацыяй Заходняй Беларусі паслугоўвалася сьпярша славянскай мовай, а потым польскі ўрад паступова ўводзіць у Царкву польскую мову, ня пытаючыся на гэта згоды беларускага народу. Такім парадкам, пасярэднікам паміж вернікамі-Беларусамі і Богам ставіць сам сябе польскі ўрад. Пасьля гэтага Праваслаўная Царква апынулася ў руках польскай адміністрацыі сяродкам асыміляцыйнай і дэнацыяналізацыйнай палітыкі ў дачыненьні да беларускага народу.

Айцец Хведар добра ведаў, што як адзінка, грамадзтва, гэтак сама й увесь беларускі народ могуць жыць нармальным поўным жыцьцём адно тады, калі Беларусы ў ваднолькавай меры зь іншымі могуць карыстацца поўнай рэлігійнай і палітычнай свабодай.

Айцец Хведар заўсёды напамінаў сваім вернікам, што трэба быць добрымі хрысьціянамі, трымацца веры бацькоў сваіх, шанаваць мову сваю родную. Царква ў найвялікшай ступені ёсьць носьбітам беларускіх нацыянальных рэлігійных і культурных традыцыяў. А традыцыі нашага народу — гэта нашая будучыня. Без свае нацыянальнае мінуўшыні ня можа быць свае будучыні. Чым багацейшыя традыцыі народу, тым багацейшая ягоная гісторыя, культура. Як рэлігійныя, гэтак і гістарычныя ды культурныя традыцыі захоўваюць беларускі народ перад шкоднымі ўплывамі звонку, а ў некаторых выпадках і перад нацыянальнай сьмерцяй. Нацыянальныя традыцыі, як нябачаныя ніткі, вяжуць наш народ зь мінулым і вызначаюць для яго жыцьцёвы шлях у будучыні, гарантуюць цягласьць нашага нацыянальнага жыцьця.

Аб рэлігійных традыцыях Праваслаўнае Царквы Айцец Хведар гаварыў: „Толькі дзякуючы надзвычайнай глыбіні й сіле беларускіх традыцыяў і глыбіні веры ў Бога, беларускі народ пераплыў бурлівае мора, хоць заўсёды ўдзелам ягоным было плысьці супраць ветру".

Айцец Хведар быў запраўдным сынам беларускай вёскі. Дзяліў із сваім народам і радасьць, і нядолю. Ён часта паўтараў глыбокія словы: „Мы страцілі часова нашую палітычную свабоду, але не загубілі сваёй духовай свабоды. Ворагі нашыя як з Усходу, гэтак і Захаду вядуць заўзятае змаганьне за нашыя душы. Але дарма! Яны могуць паняволіць нас фізычна, але ніколі ня змогуць паняволіць духова. Духовае нявольніцтва — гэта адна із найстрашнейшых людзкіх хваробаў: яна ў найбольшай ступені дэградуе чалавека, як твор Божы".

І ўзапраўды, Айцец Хведар застаўся верным сваім высокалюдзкім прынцыпам. За свае высокія гуманныя ідэялы быў некалькі разоў зьняволены як польскімі, так і савецкімі ўладамі, а царкоўна-расейская адміністрацыя некалькі разоў перакідала Айца Хведара з прыходу ў прыход і пераважна зь лепшага ў горшы.

Будучы на эміграцыі ў Нямеччыне, Айцец Хведар балюча перажывае пераход беларускіх герархаў у Расейскую Зарубежную Царкву.

У Задзіночаных Штатах Айцец Хведар працуе настаяцелем Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку пры адноўленай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Айцец Хведар быў выдатным змагаром за лепшую долю беларускага народу. Бяспрыкладная аддаласьць ідэі вызваленьня, рэдкая адвага, бескарысьлівасьць, бескампрамісовасьць у важных рэлігійных і нацыянальных беларускіх справах стварылі Айцу Хведару заслужанае імя Гэроя-Змагара.

А гэроі не паміраюць, адыходзяць, але жывуць з намі, будзяць у нас успаміны аб велічы сваіх чынаў, заклікаюць сваіх нашчадкаў да працы, якое самі не змаглі закончыць..,

**М. Гарошка**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

17 ліпеня 1959 году Кангрэс ЗША аднагалосна прыняў публічны закон 86-90, на аснове якога трэйці тыдзень месяца ліпеня кажнага году абвяшчаецца Тыднем Паняволеных Народаў. У аднагалосна прынятай Рэзалюцыі, званай „Рэзалюцыяй Паняволеных Народаў", Кангрэс ЗША гэтак абгрунтоўваў устанаўленьне Тыдня Паняволеных Народаў:

WHEREAS the imperialistic policies of Communist Russia have led, through direct and indirect aggression, to the subjugation of the national independence of Poland, Hungary, Lithuania, Ukraine, Czechia, Slovakia, Latvia, Estonia, White Ruthenia, Rumania, East Germany, Bulgaria, mainland China, Armenia, Azerbaijan, Georgia, North Korea, Albania, Idel-Ural, Tibet, Cossackia, Turkestan, North-Vietnam, and others, and

WHEREAS it is vital to the national security of the United States that the desire for liberty and independence on the part of the peoples of this conquered nationos should be steadfastly kept alive; and

WHEREAS the desire for liberty and independence by the overwhelming majority of the people of these submerged nations constitutes a powerful deterrent to war and one of the best hopes for a just and lasting peace; and

WHEREAS it is fitting that we clearly manifest to such people through an appropriate and official means the historic fact that the people of the United States share with them their aspirations for the recovery of their freedom and independence...

На аснове вышэй успомненага закону, у 1960 годзе Прэзыдэнт ЗША Двайт Айзэнгауэр упяршыню абвесьціў Тыдзень Паняволеных Народаў. Ад гэнага часу Прэзыдэнт ЗША кажнага году выдае адмысловую праклямацыю, якой абвяшчае Тыдзень Паняволеных Народаў у дадзеным годзе. Сёлета быў таксама абвешчаны Тыдзень Паняволеных Народаў Прэзыдэнтам Лінданам Б. Джансанам, які выдаў наступную Праклямацыю:

THE WHITE HOUSE
CAPTIVE NATIONS WEEK, 1965
By the President of the United States of America

## A Proclamation

WHEREAS the joint resolution approved July 17, 1959 (73 Stat. 212), authorizes and requests the President of the United States of Amarica to issue a proclamation each year designating the third week in July as "Captive Nations Week" until such time as freedom and independence shall have been achieved for all the captive nations of the world; and

WHEREAS all peoples yearn for freedom and justice; and

WHEREAS these basic rights unfortunately are circumscribed or unrealized in many areas in the world; and

WHEREAS the United States of America has an abiding commitment to the principles of independence, personal liberty, and human dignity; and

WHEREAS it remains a fundamental purpose and intention of the Government and people of the United States of America to recognize and encourage constructive actions which foster the growth and development of national independence and human freedom:

NOW, THEREFORE, I, LYNDON B. JOHNSON, President of the United States of America, do hereby designate the week beginning July 18, 1965, as Captive Nations Week.

I invite the people of the United States of America to observe this week with appropriate ceremonies and activities, and I urge them to give renewed devotion to the just aspirations of all people for national independence and human liberty.

IN WITNESS WHEREOF, I have hereunto set my hand and caused the Seal of the United States of America to be affixed.

DONE at the City of Washington this second day of July in the year of our Lord nineteen hundred and sixty five, and of the Independence of the United States of America the one hundred and eighty-ninth.

LYNDON B. JOHNSON

By the President:
DEAN RUSK
Secretary of State.

### МАНІФЭСТАЦЫЙНАЯ СУСТРЭЧА

Прадстаўніцтва Выканальнага Органу Украінскай Нацыянальнай Рады ў ЗША, Задзіночаньне Прыхільнікаў Украінскай Нацыянальнай Рады ў ЗША й Кантактная Камісія Лігі Паняволеных Народаў СССР (Парыскага Блёку) у ЗША супольна з нацыянальнымі арганізацыямі паасобных паняволеных народаў СССР зладзілі Маніфэстацыйную Сустрэчу дзеля адзначаньня сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў. Сустрэча адбылася ў нядзелю 11 ліпеня сёлета ў летнім Украінскім Селішчы ў Баўнд Брук у штаце Нью Джэрзі.

У арганізацыі й правядзеньні Сустрэчы ад Беларусаў прыймала ўдзел Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. У самой Сустрэчы асабіста прынялі ўдзел старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р Ст. Станкевіч, сябра Рады Дырэктароў БАЗА сп. Б. Даніловіч, віцэ-старшыня Ньюёркаўскай Акругі БАЗА сп. А. Шукелайць, старшыня Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі сп. С. Гутырчык, віцэ-старшыня Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі сп. Я. Азарка, а так-жа група сяброў БАЗА.

Афіцыйную частку Сустрэчы адкрыў уступнай прамовай прадстаўнік УНРады праф. І. Палівода, пасьля якога выступіў з прамовай старшыня Кантактнай Камісіі Парыскага Блёку сп. Рамазан Карча (Паўночнакаўказец). Тады прамаўлялі сп. А. Мелікаў — ад Азэрбайджанаў, д-р Ст. Станкевіч — ад Беларусаў, інж. В. Глазкоў — ад Казакаў, д-р І. Казак — ад Задзіночаньня былых украінскіх воінаў у ЗША. Наапошку была прынятая Рэзалюцыя, найбольш істотную частку якой ніжэй зьмяшчаем:

### З РЭЗАЛЮЦЫІ СУСТРЭЧЫ

„Прысутныя на Вялікай Маніфэстацыйнай Сустрэчы грамадзтва дзеля адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў у ўкраінскім селішчы Баўнд Брук 11 ліпеня 1965 году **дзякуюць** амэрыканскаму народу, ягонаму Кангрэсу й Прэзыдэнту за абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў як за маральную дапамагу ў змаганьні із савецка-маскоўскім імпэрыялізмам,

**Перасылаюць** шчырае слова прывітаньня ўсім паняволеным Масквою народам з пажаданьнем ператрываць цяжкі час зь вераю ў перамогу сусьветнай справядлівасьці й права кажнага народу быць гаспадаром на сваёй зямлі, Справядлівасьць і свабода будуць для ўсіх, або іх наагул на зямлі ня будзе.

Прысутныя на Маніфэстацыі **прыракаюць** стаяць у Вольным Сьвеце на пазыцыях абароны правоў усіх паняволеных у СССР народаў на незалежнасьць,

**Пратэстуюць** супраць палітыкі Камуністычнай Партыі Савецкага Саюзу зьліцьця народаў у вадзіную „савецкую нацыю", або ў практыцы абмаскаленьня ўсіх паняволеных народаў,

**Запярэчуюць** права КПСС высылаць моладзь паняволеных народаў на цяжкія нявольніцкія работы ў Казахстан, на Урал і Далёкі Усход, дзе яна асуджаная на дэнацыяналізацыю,

**Прыракаюць** не забыцца аднаго з найбольшых у культурным сьвеце праступкаў, які выявіўся ў стварэньні штучнага голаду як сяродку здушэньня супраціву сялянства прымусовай калектывізацыі. Падчас гэнага штучнага голаду зьгінулі страшнай сьмерцяй дзесяткі мільёнаў нявінных людзей,

**Пратэстуюць** супраць рэлігійнага перасьледваньня ў СССР, супраць нішчэньня, замыканьня й ператварэньня ў таварныя склады цэркваў, касьцёлаў, мэчэтаў і іншых дамоў малітвы, супраць перасьледваньня духавенства ўсіх веравызнаньняў і прыгнечаньня вернікаў,

**Супраць** жорсткае русыфікацыі школаў у савецкіх рэспубліках,

**Супраць** зьмяншэньня колькасьці тыражоў кніжак нерасейскімі мовамі, школьнай лектуры й пэрыядычных выданьняў за кошт павялічэньня такіх-жа выданьняў расейскаю моваю.

Прысутныя на Маніфэстацыі **запярэчваюць** права акупанта ўважаць выяўленьне нармальнага патрыятызму за буржуазны нацыяналізм,

**Сьцьвярджаюць,** што ў радзе нацыянальных або й „сувэрэнных" рэспублік мова іхнага жыхарства ня ёсьць дзяржаўнай,

**Пратэстуюць** супраць нішчэньня памятнікаў архітэктуры на землях паняволеных народаў, як сьветкаў пра іхную слаўную мінуўшчыну,

**Засуджаюць** ганебны праступак XX стагодзьдзя, якім ёсьць спаленьне маскоўскім акупантам у Кіяве ўкраінскага аддзелу бібліятэкі Акадэміі Навукаў УССР,

**Засуджаюць** ліквідацыю Крымскай рэспублікі разам зь ейным жы-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

## АДЗІНАЦЦАТЫ КАНГРЭС БАЗА

Галоўная Управа БАЗА склікае 11-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, які адбудзецца ў сыботу 18 і нядзелю 19 верасьня 1965 году ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру (пад царквой) на 9 Рывэр Роад, Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі. Нарады Кангрэсу пачнуцца а 10-ай гадзіне нараніцы ў сыботу. Вечарам гэтага-ж дня там-жа адбудзецца супольная сяброўская вячэра для ўдзельнікаў Кангрэсу. Пасьля вячэры адбудзецца танцавальная вечарына.

На Кангрэсе будуць праведзеныя перавыбары Галоўнай Управы й Рэвізійнай Камісіі БАЗА, а таксама будзе разгледжана шмат іншых пытаньняў арганізацыі, прадугледжаных парадкам дня.

Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі згадзілася заняцца закватараваньнем дэлегатаў Кангрэсу пры беларускіх сем'ях у Нью Брансьвіку. Прыбылыя на Кангрэс дэлегаты павінны ў гэтай справе зьвяртацца да старшыні Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі паводля адрысу:

Mr. S. HUTYRCHYK
147 Bayard Street
New Brunswick, N. J.
Tel.: CH — 9-1466.

**Галоўная Управа БАЗА**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Address 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 4.00 yearly.

БЕЛАРУС — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 4 дал. на год.

# ПЕРАД КАНГРЭСАМ БАЗА

18 і 19 верасьня сёлета адбудзецца 11-ты чарговы Кангрэс Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня. Спасярод усіх Кангрэсаў, што дагэтуль адбываліся, сёлетні Кангрэс, здаецца, будзе мець асабліва важнае значэньне, а ад ягонага выніку будзе залежыць ня толькі будучыня арганізацыі, але й беларускага грамадзкага жыцьця ў ЗША наагул.

Справа ў тым, што ўся тая кампанія супраць цяперашняй Галоўнай Управы БАЗА й ейнай дзейнасьці, якая вялася некаторымі людзьмі як унутры самой арганізацыі, гэтак і цераз гэтых людзей звонку яе, знойдзе свой фінал на самым Кангрэсе.

Што-ж было прычынаю гэтае кампаніі? — не адзін паставіць перад сабой такое пытаньне. Аж сорамна прызнацца, але беспасярэдняй прычынай было адно тое, што на становішча старшыні Галоўнай Управы БАЗА на апошнім Кангрэсе ў 1963 годзе ня быў выбраны той, хто хацеў ім за ўсякую цану быць. Гэта гучыць нагэтулькі парадаксальна й сьмешна, што адно гэтым ніяк нельга вытлумачыць таго, што ўсё-ж стварылася вакол гэнае адзінкі група людзей, якая змагла ўнесьці некаторы закалот у нашае грамадзкае жыцьцё. Відаць, за гэтымі прычынамі, чыста асабістымі, хаваюцца прычыны глыбейшыя. Пашукайма тады гэтых прычынаў.

Папярэдняе кіраўніцтва БАЗА яшчэ з канцом 1962 і пачаткам 1963 году павяло было акцыю г. зв. задзіночаньня з коламі Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Пэўне-ж, грамадзкае задзіночаньне—у прынцыпе зьява прыгожая й карысная. Але адно тады, калі яно абапёртае на здаровых асновах, калі абодвы бакі, што задзіночваюцца, ня маюць у гэтым ніякіх задніх мэтаў. Тымчасам уся акцыя задзіночаньня, распачатая ранейшым кіраўніцтвам БАЗА, была скіраваная да аднабокага задзіночаньня, якое, калі-б яно ўжыцьцявілася, практычна й фактычна мусіла-б прывесьці да ліквідацыі БАЗА, як самастойнай арганізацыі зь ейнай ідэйнай плятформай ды ўліцьця часткі ейных сяброў у Беларускі Кангрэсавы Камітэт. Іншая-ж, больш грамадзка дасьпелая й ідэйна прынцыповая частка сяброў БАЗА мусіла-б тады шукаць новых формаў арганізацыйнага жыцьця. Недарма на апошнім Кангрэсе БАЗА адзін з дэлегатаў быў заявіў, што такое задзіночаньне, якое распачало ранейшае кіраўніцтва БАЗА, гэта пачатак разадзіночаньня сярод нас самых. У далейшым такое задзіночаньне мела-б прывесьці да ліквідацыі канцэпцыі БНР, на якой афіцыйна й фактычна стаіць БАЗА, ды стварэньня поўнай і бесканкурэнцыйнай манаполіі для канцэпцыі БЦР, на якой стаіць Беларускі Кангрэсавы Камітэт.

Усе гэтыя пляны, якія, здавалася, былі ўжо блізкія ўжыцьцяўленьня, 10-ты Кангрэс БАЗА ў 1963 годзе поўнасьцяй пакрыжаваў. Выбраная на гэтым Кангрэсе новая Галоўная Управа БАЗА цьвёрда й наважана павяла работу ня ў кірунку развалу арганізацыі, але ў кірунку ейнага аздараўленьня.

Дацэньваючы, аднак, важнасьць і патрэбу супольнай і скардынаванай нацыянальнай дзейнасьці ўсяго беларускага грамадзтва, новая Галоўная Управа БАЗА адразу-ж стала на пазыцыях як найцясьнейшага супрацоўніцтва з усімі беларускімі коламі, у тым ліку й коламі, што згуртаваныя вакол Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Аб гэтым Галоўная Управа БАЗА афіцыйна заявіла вуснамі свайго старшыні ў № 80 газэты „Беларус" за лістапад 1963 г. і сфармулявала прынцыпы такога супрацоўніцтва. Гэтымі прынцыпамі былі: 1. абодвы бакі, незалежна ад іхнае ўдзельнае вагі ў нацыянальным руху й колькасьці іхных сяброў і прыхільнікаў, разглядаюцца як роўныя й раўнапраўныя партнэры безь якой-небудзь спробы дыскрымінацыі або маёрызацыі аднаго боку другім; 2. супольнае супрацоўніцтва адбываецца на прынцыпах, якія нас лучаць, затое прынцыпы, якія нас дзеляць, пакідаюцца адно для дадзенага партнэра, што іх вызнае, безь якой-небудзь спробы накіданьня іх таму партнэру, што іх ня вызнае. Мелася наўвеце, што пасьля таго, калі-б такое супрацоўніцтва жыцьцёва сябе апраўдала, можна было-б ставіць пытаньне й аб цясьнейшым задзіночаньні.

І вось ужо першая канкрэтная спроба такога супрацоўніцтва ня вытрымала жыцьцёвае пробы. Галоўная Управа БАЗА яшчэ ў канцы 1963 году запрапанавала была Беларускаму Кангрэсаваму Камітэту наладзіць у Нью Ёрку супольнае сьвяткаваньне 46-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка на вышэй сфармуляваных прынцыпах. Аднак Беларускі Кангрэсавы Камітэт гэтыя прынцыпы поўнасьцяй адкінуў, а ультыматыўна прадыктаваў прынцыпы свае, якія для БАЗА ідэялягічна былі няпрыймальныя й прэсьціжова абразьлівыя. Гэтым Беларускі Кангрэсавы Камітэт дастаткова паказаў, пра якое задзіночаньне яму ходзіць, — пра задзіночаньне вылучна на ягонай палітычнай плятформе. Пра іншыя спробы супрацоўніцтва зь Беларускім Кангрэсавым Камітэтам, якія канчаліся падобнымі-ж вынікамі, была мова ў артыкуле „Хай гавораць факты", надрукаваным у № 99 „Беларуса" за чырвень 1965 году.

Але вось група сяброў БАЗА на чале з былым старшынём ейнае Галоўнае Управы й узмоцніла ад гэнага часу сваю кампанію супраць- цяперашняй Галоўнай Управы й абапёрлася ў гэтай кампаніі на Беларускі Кангрэсавы Камітэт і наагул на ўсіх тых, што ў дачыненьні да БАЗА займалі няпрыхільную або варожую пазыцыю. Гэтая група не пагрэбавала навет выразным падтрыманьнем ведамае славы хмараўшчыны, а хмараўскі „Беларускі Голас" ад самага пачатку стаўся неафіцыйным органам гэтае групы. Маючы такім парадкам актыўнае заплечча, успомненая група змагла дабіцца некаторага эфэкту ў сваёй кампаніі супраць БАЗА ды ўнесьці некаторы закалот у беларускае грамадзкае жыцьцё ў ЗША.

Ад гэнага часу кампанія супраць Галоўнай Управы БАЗА вядзецца сыстэматычна й усякімі спосабамі, прыймаючы часамі самыя дзікія формы, як, прыкладам, выламліваньне замкоў з паштавой скрынькі Галоўнай Управы БАЗА й з канцылярыі БАЗА ў Нью Ёрку, спробы абвінавачаньня Акруговай Управы БАЗА ў Нью Ёрку перад амэрыканскім судом, узурпаваньне гэтай групай Галоўнай Управы БАЗА ў выступленьнях навонкі й г. п. Гэтая-ж група занялася была энэргічнай акцыяй арганізаваньня байкотаў усякіх нацыянальных імпрэзаў, якія ладзіла Галоўная Управа. Найбольш прыкрай і вартай вялікага сораму была справа, калі група сяброў БАЗА наважылася арганізаваць байкот такой важнай агульнанацыянальнай імпрэзы, якой была 6-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў 1964 годзе ў Нью Брансьвіку.

Ува ўсёй гэтай кампаніі прычэпліваюцца праціўнікам самыя несамавітыя ярлыкі, як „непрадрашэнства", „вуніяцтва", „групоўшчына", ды пускаюцца ў ход дэмагагічныя лёзунгі, як „трэба быць усім разам", „далоў інтэлігенцыю" й пад. У сваёй перадкангрэсавай агітацыі ўспомненая група прабуе запалохаць, што ў выпадку незаспакаеньня на Кангрэсе ейных патрабаваньняў, паўстане новая паралельная да БАЗА арганізацыя, або, як яны гавораць, будуць „дзьве БАЗА-ы", што ў сваю чаргу замацавала-б грамадзкае разьбіцьцё. Што-ж, паралельная арганізацыя паўстаць заўсёды можа, — фактычна яна ўжо паўстала 6 чырвеня сёлета пад назовам „Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня". Але вельмі сумлеўна, ці зможа яна існаваць, бо дзеля гэтага мала прапагандовага крыку й дэмагогіі, а патрэбная й канкрэтная праца. А якраз усе тыя, што сяньня найбольш крычаць, ня выказаліся ніякай пазытыўнай працай.

І вось у такіх ненармальных і цяжкіх абставінах мусіла весьці сваю дзейнасьць Галоўная Управа БАЗА на працягу ўсяе свае двухгадовае кадэнцыі.

Папярэдняя Галоўная Управа, зьвяртаючы асноўную ўвагу на вонкавую шуміху й самарэкляму, зусім занядбала была нутраныя справы арганізацыі, што ў некаторых аддзелах навет няведама было, хто ёсьць сябрам БАЗА, а хто не. Імкнучыся прывесьці да парадку нутраную сытуацыю, новая Галоўная Управа энэргічна пачала ад найважнейшага — ад унармаваньня сяброўства БАЗА й сяброўскіх складак. Справу сяброўскіх складак Галоўная Управа разглядала ня толькі як крыніцу даходу арганізацыі, але галоўна як фактар, што цэмэнтуе арганізацыю й дысцыплінуе ейных сяброў. Як не цяжкой была гэтая справа, тым ня менш сёлетнія агульныя сходы ў аддзелах праводзіліся ўжо паводля прынцыпу рэгулярнага аплачваньня сяброўскіх складак.

Далей, была зьвернутая асаблівая ўвага на ўдзел у міжнацыянальным супрацоўніцтве й на рэпрэзэнтацыю беларускага імя навонкі. Хадзіла галоўна пра тое, каб вонкавую акцыю як мага пашырыць і галоўна паставіць яе на высокім заходнім узроўні. У гэтай галіне былі немалыя сукцэсы, і БАЗА заваявала сабе высокі аўтарытэт у вачох чужых дзейнікаў. З больш чымся сотняй сяброў Кангрэсу ЗША Галоўная Управа мела пісьмовыя кантакты. Аб выніках ейнае дзейнасьці ў гэтай галіне могуць найлепш сьветчыць наступныя факты: калі за кадэнцыяй ранейшай Галоўнай Управы з нагоды 25 Сакавіка было ў 1963 годзе 12 прамоваў у вабедзьвюх палатах Кангрэсу на тэму незалежнасьці Беларусі, дык за кадэнцыі цяперашняй Галоўнай Управы было ў 1964 годзе 25 такіх прамоваў, а ў 1965 годзе — аж 38! Прынятая на сёлетнім сьвяткаваньні 47-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Нью Ёрку рэзалюцыя была тройчы зачытаная ў Кангрэсе — адзін раз у Сэнаце й два разы ў Палаце Рэпрэзэнтантаў і, адпаведна з гэтым, тры разы была надрукаваная ў Кангрэсавым Рэкордзе. Калі раней з Уладыкам Васілём езьдзіў у Сэнат адно адзін прадстаўнік БАЗА, дык цяперашняя Галоўная Управа, дзеля большай павагі й лепшай рэпрэзэнтацыі, пасылала ў Сэнат некалькіасабовыя дэлегацыі.

Цяперашняя Галоўная Управа поўнасьцяй здавала сабе справу з таго, што адно такая эміграцыя можа ўважацца паўнацэннай, якая мае свой сталы й рэгулярна выдаваны прэсавы друкаваны орган. З гэтаю мэтаю была адразу-ж аднаўленая й на высокім узроўні пастаўленая газэта „Беларус", якая выходзіла рэгулярна на працягу двух апошніх год вылучна на собскія фінансавыя сяродкі.

Гэта адно асноўныя дасягненьні ў дзейнасьці цяперашняй Галоўнай Управы БАЗА. Бясспрэчна, дасягненьні гэтыя былі-б куды большыя, калі-б ня тыя калоды, што ўвесь час былі кіданыя пад ногі Галоўнай Управы людзьмі ўспомненай групы, якія самі абсалютна нічога пазытыўнага не рабілі, а сьведама й наважана перашкаджалі рабіць іншым.

І вось гэтыя людзі энэргічна цяпер прыгатаўляюцца да Кангрэсу БАЗА, каб, як яны выражаюцца, „зрабіць парадак у арганізацыі".

Хочацца, аднак, верыць, што дэлегаты на Кангрэс сур'ёзна й з поўным пачуцьцём грамадзкай адказнасьці падыйдуць да ўсіх пытаньняў, што маюць быць Кангрэсам разьвязаныя. На гэтым Кангрэсе мы ўсе павінны здаць экзамен з нашай грамадзкай дасьпеласьці, даць адпаведную ацэну авантурызму безадказных адзінак ды, галоўнае, даць моцны адпор вонкавым спробам умешваньня ў жыцьцё нашае арганізацыі.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

харствам, ліквідацыю рэспублікі Немцаў Паволжа і раду каўкаскіх рэспублік.

Прысутныя на Маніфэстацыі **заклікаюць** паняволеныя народы й Амэрыканцаў, што паходзяць з краёў, акупаваных Масквою, задзіночаным фронтам супраціўляцца наступу Масквы на ўсе паняволеныя народы;

**Заклікаюць** Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў зьвярнуць увагу на савецка-маскоўскі імпэрыялізм і дамагчыся ад СССР пашанаваньня статуту гэтай Арганізацыі,

**Заклікаюць** Кангрэс ЗША стварыць Камітэт Паняволеных Народаў.

Згодна з прынцыпамі Атлянтыйскай Карты, Сусьветнай Дэклярацыі Правоў Чалавека й Дэклярацыі наданьня незалежнасьці каляніяльным народам, якую прынялі Задзіночаныя Нацыі 14 верасьня 1960 году, **заклікаем** амэрыканскі ўрад падтрымаць права на самавызначэньне ўсіх народаў, што знаходзяцца ў савецкай камуністычнай імпэрыяльнай сыстэме."



### МАНІФЭСТАЦЫІ Ў НЬЮ ЁРКУ

Тыдзень Паняволеных Народаў у Нью Ёрку распачаўся 18 ліпеня урачыстай Багаслужбай у шмат якіх сьвятынях, між іншым у катэдры сьв. Патрыка з удзелам нацыянальных групаў. Пасьля Багаслужбы кардынал Спэлман прыняў дэлегацыі паняволеных бальшавізмам народаў.

Таго-ж дня адбылася маніфэстацыя перад будынкам Задзіночаных Нацыяў. Падчас дэманстрацыі выступалі з прамовамі старшыня Асамблеі Паняволеных Эўрапейскіх Народаў праф. Васіль Джэрмэніі і кангрэсмэны із Ньюёркаўскага штату Фран Гортон (Рэспубліканец) і Лестэр Вольф (Дэмакрат), яны-ж задэманстравалі памятную табліцу ў чэсьць „Няведамага Змагара супраць камунізму" (глядзі фотаздымак). Табліца будзе перахоўвацца ў ЗША да часу, калі яна будзе перавезеная ў эўрапэйскую краіну, што першай вызваліцца з-пад камуністычнага рэжыму.

У аўторак 20 ліпеня адбыўся маніфэстацыйны мітынг у Сіты Гол у Нью Ёрку, падчас якога мэр гораду Нью Ёрку Робэрт Вагнэр сказаў адпаведную прамову й зачытаў выдадзеную ім праклямацыю пра абвешчаньне Тыдня Паняволеных Народаў у горадзе Нью Ёрку, перадаўшы яе пасьля гэтага старшыні Асамблеі Паняволеных Народаў праф. В. Джэрмэніі. Наапошку выступілі з прамовамі праф. В. Джэрмэніі й старшыня Украінскага Нацыянальнага Саюзу сп. Язэп Лысагір.

Ад Беларусаў прынялі ўдзел у мітынгу сябра Галоўнай Управы БАЗА сп. А. Міцкевіч, віцэ-старшыня Управы БАЗА Акругі Нью Ёрк сп. А. Шукелайць і іншыя.

### У ВАШЫНГТОНЕ

Асамблея Паняволеных Эўрапейскіх Народаў з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў зладзіла 21 ліпеня ўрачыстую Вячэру-Мітынг у залі Нацыянальнага Прэсавага Клюбу ЗША ў Вашынгтоне.

З гэтае нагоды варта коратка паінфармаваць пра гэтую арганізацыю. Сябрамі Асамблеі Паняволеных Эўрапэйскіх Народаў зьяўляюцца эміграцкія палітыкі адно із сатэлітных краёў. Навет прадстаўнікі народаў Югаславіі не ўваходзяць у склад гэтае Асамблеі. Тым ня менней, выдадзены з нагоды сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў Маніфэст і падпісаны, апрача Асамблеі Паняволеных Эўрапейскіх Народаў, яшчэ й такімі арганізацыямі, як Амэрыканскія Прыяцелі Паняволеных Народаў і Канфэрэнцыя Амэрыканцаў, што паходзяць з Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, выступае ў вабароне ня толькі краёў сатэлітаў, але й нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Вось адпаведныя пункты гэнага Маніфэсту:

WE ACCUSE the Soviet Union of violating its solemn promises of freedom and independence to the nine nations made captive after World War II — Albania, Bulgaria, Czechoslovakia, Estonia, Hungary, Latvia, Lithuania, Poland and Romania;

WE FURTHER ACCUSE the government of the USSR of forcibly depriving the captive non-Russian peoples within its own borders of the promised rights of self-determination and of destroying the formerly independent states of Ukraine, Georgia, Armenia and others...

На мітынгу з палкімі антыкамуністычнымі прамовамі, побач зь іншымі, выступалі ведамыя прыхільнікі паняволеных народаў кангрэсмэн з Пэнсыльвэніі Даніель Флюд і кангрэсмэн зь Мічыгану Джэральд Форд. Сярод прысутных былі амэрыканскія сэнатары, звыш дваццацёх кангрэсмэнаў, палітычныя дзеячы й карэспандэнты.

У Вячэры-Мітынгу прыняў удзел у якасьці запрошанага гасьця старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р Ст. Станкевіч, які, выкарыстоўваючы гэтую нагоду, змог навязаць асабістыя кантакты зь некаторымі амэрыканскімі палітыкамі й палітычнымі дзеячамі із сатэліцкіх краёў.

# 19-ТЫ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

У сыботу 26 чырвеня сёлета адбыўся ў Лёндане Гадавы Агульны Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Пасьля адкрыцьця Зьезду старшынём Галоўнай Управы ЗБВБ сп. Ул. Бутрымовічам быў выбраны ягоны прэзыдыюм у складзе сп. сп. а. А. Надсона — старшыні, А. Лашука й Я. Сяўковіча — сакратароў. Зьезд выслухаў наступныя справаздачы: старшыні ўступаючай Галоўнай Управы Аўдытара, управаў Аддзелаў ЗБВБ, адміністратараў Дамоў ЗБВБ, Дапамаговай сэкцыі пры ЗБВБ ды Рэвізійнай Камісіі.

З дыскусіі над справаздачамі выявілася, што ёсьць пажаданым, каб Галоўная Управа часьцей выдэлегоўвала ў Аддзелы сваіх прадстаўнікоў на ладжаныя імпрэзы й важнейшыя зборкі. Таксама была зьвернутая ўвага, каб новая Галоўная Управа распачала прыгатаваньні дзеля выданьня інфармацыйнай брашуры пра ЗБВБ у ангельскай мове.

У новую Галоўную Управу ЗБВБ былі выбраныя сп. сп.: Ул. Бутрымовіч — старшыня, а. Л. Гарошка — 1-шы віцэ-старшыня, Я. Калбаса (Брадфард) — 2-гі віцэ-старшыня, А. Лашук — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, П. Навара — сябра Управы, Ю. Якімец — сябра Управы. У Рэвізійную Камісію выбраныя: А. Я. Абабурка, а. А. Надсон і сп. Я. Міхалюк.

Зьезд закочыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

# НА 50-ЫЯ УГОДКІ МАСЕЯ СЯДНЁВА

**1-га верасьня сёлета спаўняецца роўна 50 год ад нараджэньня ведамага беларускага паэты на эміграцыі Масея Сяднёва.**

**Не зважаючы на цяжкія абставіны жыцьця й працы на чужыне, Масей Сяднёў заўсёды актыўны й творчы ў галіне беларускае паэзіі. З пад ягонага пяра выходзяць адзін за адным цудоўныя вершы, поўныя глыбокага роздуму над зьявамі людзкага жыцьця й свайго асабістага. Хоць часамі ў некаторых ягоных вершах гучаць ноткі суму й зьнеахвочаньня да чужога паэтавай душы асяродзьдзя, паэзія Сяднёва мае ў васнаўным бадзёры аптымістычны характар. У ягоных вершах прабіваецца паэтава вера ў лепшыя якасьці чалавека. З боку мастацкага й тэхнічнага творы Сяднёва стаяць на высокім ўзроўні.**

**З нагоды 50-цігодзьдзя, мы шчыра жадаем Масею Сяднёву як найбольшай памыснасьці ў ягоным асабістым жыцьці й далейшае плённае дзейнасьці ў галіне роднае яму беларускае паэзіі.**

**Рэдакцыя „Беларуса"**



## Жыцьцёвы й творчы шлях паэты

Масей Сяднёў у сваім артыкуле „Замест жыцьцяпісу" („Беларуская моладзь" №8, 1963) гаворыць, што найлепшым ягоным жыцьцяпісам зьяўляюцца ягоныя вершы. Слушна: вершы Сяднёва — гэта няштодзённы дакумант, сьведчаньне ягонага перш за ўсё асабістага жыцьця, гэта духовая гісторыя ягонай душы, дый інакш і быць ня можа ў лірычнага паэты, якім зьяўляецца Масей Сяднёў. Але апрача гэтага асабістага, у вершах Сяднёва адбілася й агульнае: наш час, шляхі і пуцявіны беларускага інтэлігента і шмат чаго іншага. Дасьведчаньне Масея Сяднёва — паэты, чалавека, грамадзяніна — цікавае для нас, і тут мы хацелі-б крышачку затрымацца над некаторымі фактамі зь ягонай біяграфіі, даступнымі для нас.

Масей Сяднёў нарадзіўся на Магілеўшчыне, у ейным паўднёва-ўсходнім кутку — у Касьцюковіцкім раёне, у сялянскай (хутчэй беднай) сям'і. Ня гледзячы на тое, што бацькі Масея Сяднёва — Ларыён і Маланьня — былі няпісьменнымі, сваім дзецям яны стараліся даць асьвету і рабілі ўсё магчымае ў гэтым напрамку.

Скончыўшы ў сваёй вёсцы пачатковую школу, Сяднёў пастулае ў Саматэвіцкую сямёхгадовую школу, якую й канчае ў 1930 годзе. Між іншага, у гэтай школе вучыўся і знаны таленавіты паэта Аркадзь Куляшоў, зь якім Сяднёў асабіста знаёмы. Можа дзякуючы добрым выкладчыкам літаратуры, у сямёхгодцы (якая раней была дзевяцёхгадовай) шанавалі й любілі беларускую літаратуру. Тут былі свае літаратурныя выданьні, у якіх Масей Сяднёў браў самы чынны ўдзел, драматычныя гурткі, ладзіліся літаратурныя вечары і г. д. Немалаважнае значэньне ў заахвочваньні літаратурай меў і той факт, што ў сямёхгодцы працаваў выкладчык Іван Чэчка, які вучыўся разам зь Якубам Коласам і які шмат расказваў аб ім сваім гадунцом. Да таго-ж сам дырэктар школы Габруковіч усяляк спрыяў літаратурным зацікаўленьням сваіх вучняў. Гісторыю беларускай літаратуры вучні вучылі па М. Гарэцкаму і Чаржынскаму. Выкладалася навет паэтыка па падручніку Барычэўскага „Паэтыка літаратурных жанраў". Школа была добра забясьпечаная творамі беларускай літаратуры, як старой, гэтак і новай. Выпісваліся часапісы „Полымя", „Узвышша", „Маладняк" і інш.

Пачаўшы пісаць вершы будучы яшчэ ў пачатковай школе, у сямёхгодцы Сяднёў прысьвячае шмат часу паэзіі, піша мноства вершаў, пераважна лірычнага характару. На жаль, ніводнага з тых вершаў не захавалася ў паэты. Купала, Колас становяцца настаўнікамі Сяднёва. Захапляўся Сяднёў у гэтым часе і новай, „маладняцкай" паэзіяй, асабліва любіў Дубоўку й ведаў напамяць шмат ягоных вершаў. Там-жа ўпяршыню пазнаёміўся Сяднёў і з „замежнымі" беларускімі паэтамі — вершамі Н. Арсеньневай, зьмешчанымі ў хрэстаматыі Віленскага выданьня.

Першы свой верш Масей Сяднёў надрукаваў у раённай газэце, навучаючыся ў сямёхгодцы.

У 1930 годзе Сяднёў паступае ў Мсьціслаўскі пэдтэхнікум, дзе літаратурныя традыцыі былі таксама моцнымі (прыгадаем хоць-бы „Мсьціслаўскую групу паэтаў" — Таўбіна, Зьм. Астапенку, Куляшова). Скончыць тэхнікуму Сяднёву, аднак, не ўдалося дзеля голаду, якога Сяднёў ня вытрымаў і, пакінуўшы вучобу, падаўся за настаўніка ў пачатковай школе. Але настаўніцкая кар'ера Сяднёва ня цікавіла надта. Прапрацаваўшы год, ён пакідае пасаду настаўніка й едзе ў Менск, моцна пакрыўдзіўшы гэтым самым сваіх бацькоў, у вачох якіх настаўнік быў немалой велічынёй і ім незразумела было, чаго яшчэ хоча іх сын.

У Менску Масей Сяднёў паступае ў пэдтэхнікум. Тады ўжо назову Ігнатоўскага тэхнікум не насіў, хоць Сяднёў атрымаў яшчэ студэнцкі білет зь імём Ігнатоўскага, праўда, перакрэсьленым. Пакінуў вучобу Сяднёў і ў гэтым тэхнікуме па тэй-жа самай прычыне. Ніадкуль дапамогі Сяднёў ня меў. У гэтым тэхнікуме Сяднёў застаў яшчэ брата Язэпа Лёсіка, які выкладаў беларускую мову. Цэлай плеяды маладых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, якія тут вучыліся, Масей Сяднёў ужо не засьпеў.

Аднак, цяга да навукі ў Сяднёва не слабее. У 1933 годзе Сяднёў вытрымлівае ўступныя экзамены ў Вышэйшы Пэдагагічны Інстытут (ВПІ) на літаратурна-лінгвістычны факультэт, дзе й вучыцца да дня свайго арышту. З чацьвертага, апошняга курсу ў 1936 годзе Сяднёва арыштоўваюць і засуджаюць на шэсьць год за буржуазны нацыяналізм.

Навучаючыся ў ВПІ, Сяднёў больш сур'ёзна цікавіцца літаратурай і піша сам. Ягоныя вершы зьяўляюцца адзін па адным у розных тагачасных беларускіх выданьнях: „Чырвоная зьмена", „Беларуская работніца і сялянка", „Піянэр Беларусі", „Паляўнічы Беларусі", „Калгасная вёска", альманах „Аднагодкі" пад рэдакцыяй К. Чорнага й П. Глебкі. Тут, дарэчы, зь Сяднёвам дэбютаваў і ведамы паэта П. Панчанка. Нарэшце, вершы Сяднёва пачынаюць зьяўляцца і ў г. зв. тоўстым часапісе „Полымя рэвалюцыі" (цяпер „Полымя"), у газэце „Літаратура і мастацтва". Пачынаюцца асабістыя кантакты Сяднёва з паэтамі й пісьменьнікамі як старэйшага, гэтак і маладшага пакаленьня.

Сяднёў рос як паэта й зьвяртаў на сябе ўвагу пісьменьніцкіх колаў, поўны творчых плянаў і лятуценьняў. Аднак, у роськвіце творчых сіл, у пару фармаваньня, паэта Масей Сяднёў, у ліку іншых паэтаў і пісьменьнікаў, быў гвалтоўна спынены на ягоным шляху ў літаратуру і ў жыцьцё наагул.

Вызваліла Масея Сяднёва вайна 1941 году. Аб гэтым сваім вызваленьні, значна пазьней, у 1960 годзе, рэтрэспэктыўна, паэта напісаў верш „Вызваленьне", надрукаваны ў „Бацькаўшчыне", які стаўся косткай у горле пісакаў з „Голасу радзімы" і іншых падобных выданьняў. Яны абвінавачваюць паэту ў тым, быццам гэтым самым вершам, напісаным, як мы сказалі, у 1960 годзе, ён вітаў прыход фашыстаў у 1941 годзе.

Апынуўшыся на эміграцыі, паэта выдае свае зборнікі вершаў „У акіяне ночы", „Спадзяваньні", „Ля ціхай брамы", добра ведамыя нашаму грамадзтву. Ягоны першы зборнік вершаў „Ад сына твайго, Беларусь", надрукаваны ўжо, але не адасланы яшчэ з друкарні ў Кёнігсбэргу, згінуў у пажары ў часе бамбардыроўкі гэтага гораду.

Масей Сяднёў бярэ чынны ўдзел бадай ува ўсіх нашых часапісах — „Шыпшына", „Сакавік", „Конадні", „Беларуская моладзь" і інш.

Вершы Масея Сяднёва перакладаюцца ў вялікай колькасьці на ўкраінскую мову такімі ўкраінскімі паэтамі, як Палтава, Славутыч, Качуроўскі, Карпэнка-Крыныця, Александроў і інш., і зьмяшчаюцца ў розных эўрапейскіх і амэрыканскіх украінскіх выданьнях, а таксама на польскую мову („Культура", „Канфэдэрацыя"). Украінская крытыка (прафэсар Шэрах) высока ацаніла творчасьць нашага паэты.

Цяперака паэта працуе над сваім першым празаічным творам „Раман Корзюк", што пачаўся друкам у „Конаднёх" і працягваецца ў газэце „Бацькаўшчына". Рыхтуе да выданьня новы зборнік вершаў.

# ЗЬ ВЕРШАЎ МАСЕЯ СЯДНЁВА

### *ДАЛЁКАЕ*

*Цяпер то ўсё далёка,*
*як звон за хатай калосься.*
*Пісаліся вершы лёгка,*
*калі мне цяжка жылося.*

*Жывецца цяпер ня лепей,*
*а можа яшчэ і горай.*
*Вясёлым зіхценьнем у небе*
*ня сьвецяцца зоры.*

*Для песьні радок здабываю*
*няўпэўнена, рэдка, скупа.*
*Аблаюць яшчэ — бывае —*
*яе паасобку ці ўкупе.*

*І болю ,і гневу, і смутку*
*агонь тлее ў слове, як прыску.*
*Застаўся ад песень тых хутка*
*на вуснах гаркавы прысмак.*

*Усё ўжо цяпер вядома...*
*Калісьці такі ахвочы,*
*цяпер ня выходжу з дому,*
*толькі калі-уночы.*

*Зноў паглядзець на зоры,*
*далёкія тыя...*
*Толькі-ж яны не гавораць,*
*сьвецяцца — не залатыя.*

### *НА ВОЗЕРЫ МІЧЫГАН*

*Як добра на Мічыгане! —*
*бяздоннае неба, сонца, вада.*
*Харчы і гатэль —усё беззаганна,*
*каб толькі ня сумная грамада.*

*Людзі ляжаць пад ветрам павеўным —*
*такая малеча, драбяза!*
*У Бога за іх, напэўна,*
*з жалю блішчыць сьляза.*

*Захоплены кажны драбніцаю самай,*
*у шчасьці маленькім кажны прыціх.*
*І робіцца страшна, што ты таксама*
*належыш да іх.*

*А хвалі шумяць і лёгкаю пенай*
*ласкаю хлюпаюць каля ног.*
*І толькі адзін я зь песьняй натхненнай*
*нешта далёкае ў сэрцы бярог.*

*Вось, вось нехта прыйдзе. Гэткі знаёмы,*
*што ўсьцешыцца раптам уся грамада.*
*І ўспыхнуць пановаму ў промнях славы*
*бяздоннае неба, сонца, вада.*

### *ЗАЛАТОЕ ШУГАНЬНЕ*

*Мне спаць уночы не даюць*
*цяжкія самалёты:*
*страшэнна рэжуць муць*
*начную сваім лётам.*

*Куды і што нясуць яны?*
*І дзе яшчэ яны кружылі?*
*Я чую дрож сьцяны,*
*як дрож у собскіх жылах.*

*А як-бы я хацеў цішы,*
*калі ня ўдзень, дык хоць-бы ўночы —*
*даўно ўжо у маёй душы*
*ня сьніўся сон прарочы.*

*Лятуць ніжэй і ў вышыні,*
*агні патушаць і засьвецяць.*
*Лятуць... Лятуць... І цішыні*
*няма на цэлым сьвеце.*

*І ў сполаху лятуць далоў,*
*як самагубцы, зь неба зоры —*
*шуганьне залатых галоў*
*пад рэха гулкае матораў.*

### *ЯК ПАМЯЦЬ НА ВУСНАХ*

*Калі-ні-калі запішу*
*радкамі сваю душу*
*агрызкам алоўку*
*і зноўку я змоўкну.*

*За хатаю дрэвы мокнуць*
*і быццам просяцца ў вокны.*

*А я, — як на вуснах замок, —*
*узгрэтаю песьняй замоўк.*

*Гляджу — і мой шэпат вусны*
*застаўся, як памяць на вуснах,*
*лірычны, усхваляваны,*
*сягоньняшнім днём датаваны.*

*Навеяныя радкі*
*кладуцца з-пад рукі*
*чужымі радкамі,*
*як на дарогу прывезены камень.*

### *ВІДЗЕНЬНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ*

*Як толькі песьняю сваёй зайдуся—*
*і Бацькаўшчына ў сэрца хлыне мне.*
*І лёгка робіцца ў начной задусе,*
*і быццам не на яве я, а ў сьне.*

*Здалёк чаломківае мне як быццам —*
*няўцешліваму сыну ў чужыне.*
*Як праз туман іду, хачу прабіцца,*
*ды сам ня ведаю, ці гэта я, ці не.*

*Спыняюся, чакаю — ды няма прывету.*
*Сьпяшаюся, хоць ногі коляць хмызьнякі...*
*Бо што мілей выгнаньніку-паэту,*
*чым вобраз твой — далёкі і блізкі?!*

### *ВЫЗВАЛЕНЬНЕ*

*Збамбілі ля турмы увесь квартал—*
*і я пайшоў у сьвет раскутым.*
*Як радасьць для сябе, вайну я прывітаў*
*радкоў маіх лірычнейшым салютам.*

*Стаяў такі празрысты дзень, маўляў*
*на ўзмор'і пенай вымыты салёнай.*
*Я цэлы сьвет багаслаўляў*
*затым, што сам я быў багалаўлёны.*

*Маліўся сіле сонца агнявой*
*і дню, што лёс мой перайначыў.*
*Я самалёту кажнаму над галавой*
*жадаў найлепшае удачы.*

*Як зьвязаныя ніцямі душы,*
*і ў лёце ня гублялі яны згоды.*
*І крыльле іх у сонечнай вышы*
*гарэла водблескам мае свабоды.*
*1960 г.*

### *„ЖЫЖА"*

Aus meinen grossen Schmerzen
mach' ich die kleinen Liedern.
**Heinrich Heine.**

*Па вечарох, рвучыся з каленяў маці,*
*маленькім, я цягнуўся да жыжы.—*
*А жыжа — гэта была лучына,*
*што гарэла у нашай хаце.*
*„Сядзі спакойна, — гаварыла маці: —*
*і ня рвіся, а то — жыжа куся".*
*Я-ж ня слухаўся маці*
*і рукамі цапаў жыжу —*
*найпрыгажэйшую рэч у нашай хаце.*
*І напраўду, прыгожая жыжа кусала балюча,*
*і з тых пор зваць пачаў я жыжу кусяй.*

*Зьлез з каленяў я матчыных. Сьвет,*
*што зазьзяў за нашай хатай,*
*пацягнуў мяне, як тая жыжа,*
*і пайшоў я у сьвет недасяжны, далёкі.*
*Ён усімі сваімі фарбамі і колерамі*
*граў у сэрцы маім — і словы мае,*
*як маленьне, ішлі насустрач сьвету.*
*І яшчэ я пазнаў у тым сьвеце нешта,*
*што рабіла яго яшчэ больш прыгожым,*
*гэтым нешта былі самі людзі —*
*найцікавейшыя рэчы у сьвеце.*
*Як да самай прывабнай жыжы,*
*пацягнуўся я да людзей — стварэньняў*
*міласэрных і ціхіх і Боскіх.*
*І пра іх я пяяў у вершах лірычных,*
*і — юнак — палымнеў самым чыстам да іх каханьнем.*
*Толькі як я шкадую, што ўжо маці болей*
*ня было у дарозе разам са мною*
*і яна, калі йшоў я да гэтай жыжы,*
*як раней не сказала мне — куся!*

## КАНЦЭРТ ПЁТРЫ КОНЮХА

У сыботу 24 ліпеня ў новазбудаванай залі на беларускім адпачынкавым селішчы „Бэлер-Менск" у Кетскільскіх горах штату Нью-Ёрк адбыўся канцэрт баса Пётры Конюха. Канцэрт, што трываў паўтары гадзіны, складаўся зь беларускіх народных песьняў і твораў сусьветных клясыкаў, выкананых часткава ў арыгінальных мовах (расейскай, італьлянскай), часткава ў беларускіх перакладах Н. Арсеньневай і Р. Крушыны („Грэнадзеры" Р. Шумана, „Штоночы ў дванаццаць гадзін" М. Глінкі, „Марак" Е. Альнэса, „Ноч" П. Чайкоўскага" і інш.). Акампаніявала сьпеваку піяністка сп-чна Валентына Гершгорын.

Канцэрт адчыніў заступнік дырэктара карпарацыі „Бэлер-Менск" д-р. Вітаўт Кіпель, вітаючы мэра Глэн-Спэю й прысутных гасьцей ды падаючы праграму далейшае культурнае й спартовае дзейнасьці ў „Бэлер-Менску". Праграму канцэрту паясьняў сп. Янка Запруднік.

Народныя песьні Пётра Конюх выконваў без акампаніямэнту, так, як іх пяюць у народзе. Выконваў мякка, з глыбокім адчуваньнем характару песьні, перадаючы калярыт мэлёдыі й багацьце пачуцьцяў ды драматычнага настрою, якім адзначаюцца сьпеваковы ўлюбёныя творы із скарбніцы песеннага фальклёру.

Поўную сілу, прыгажосьць і майстэрства свайго голасу маэстра Конюх выявіў у другой частцы канцэрту ў песьнях і арыях Вэрды, Мусаргскага, Чайкоўскага ды іншых клясыкаў сусьветнае музыкі. Трэба адзначыць дасканаласьць перакладаў Н. Арсеньневай і Р. Крушыны.

Прыбытак з канцэрту сп. П. Конюх ахвяраваў на справу далейшае разбудовы адпачынкавага цэнтру „Бэлер-Менск", які стаіць на добрай дарозе разьвіцьця й росту ня толькі як месца сьвежага паветра, але й як асяродак беларускага культурнага жыцьця.

**Я. З.**

## ДЛЯ МАЛЫХ ДЗЕТАК

Пад гэткім назовам кагадзе выйшла з друку ў Нью Ёрку кніжка выдавецтва „**Заранка**".

У ёй сабраныя лепшыя творы беларускага дзіцячага фальклёру: калыханкі, вершыкі-песенькі, казкі, гульні ды загадкі.

Кніжка мае 56 бач. і надрукаваная двума беларускімі шрыфтамі — лацінкай і кірыліцай.

